# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (835) ГОД XVII БЕЛАСТОК 27 ЛЮТАГА 1972 г. ЦАНА 60 гр.

## ГОНАР СЛУЖЫЦЬ НАРОДУ

Ва ўсёй краіне шырыцца працоўны ўздым. Жыхары гарадоў і вёсак прыступаюць да ажыццяўлення пастаноў VI з'езду ПАРП, пастаноў, якія з'яўляюцца выбарнай платформай Фронту адзінства народу. Кожны свядомы чалавек нашай краіны намагаецца лепш працаваць, даваць больш прадукцыі, праяўляць больш адказнасці за павераныя яму функцыі. Таксама і Уладзіслаў Задыковіч, солтыс вёскі Крыніцке і радны ГРН у Заблудаве, пачаў праяўляць больш самаахвярнасці ў працы, пачаў задумоўвацца над тым, чым ён можа дапамагчы дзяржаве ў выкананні грандыёзных задач. Перш за ўсё ён як сакратар мясцовага гуртка ЗСЛ добра пазнаёміўся з пастановамі партыі і ўбачыў масу задач для сябе як гаспадара і як мясцовага дзеяча. У пастанове з'езду, між іншым, гаворыцца аб неабходнасці павелічэння жывёлагадоўлі, а гэта азначае адначасова павелічэнне колькасці мяса і малака. І вось у гэтым месцы якраз у яго гаспадарцы ёсць нявыкарыстаныя рэзервы. Можна павялічыць колькасць кароў, колькасць дастаўкі малака і мяса. Зараз ва Уладзіслава Задыковіча 6 кароў. Гэта ўжо не мала як на 7-гектаровага гаспадара. Але ён пагалоўе быдла плануе яшчэ значна павялічыць. Яшчэ больш зверне



ўвагі на павелічэнне ўраджаю збожжа і сенажацяў. У гэтым дапамагалі і дапамогуць яму сельскагаспадарчыя веды, якія атрымаў ён на розных курсах, у сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Дайлідах, а таксама шляхам супрацоўніцтва з навуковай сельскагаспадарчай доследнай установай у Шэпетове. Як заўсёды, навінкі прагрэсу ў сельскай гаспадарцы ад яго пераймаюць аднавяскоўцы. Гэтак было калісьці з мінеральнымі ўгнаеннямі, вапнаваннем глебы, сіласнымі ямамі і шырокім выкарыстаннем сельскагаспадарчых машын з мясцовага сельгасгуртка.

А чым займаецца Задыковіч у вясковых справах? Ёсць іх шмат, і тут роля яго не малая. У калодзежах не хапае вады. А вада неабходная і для людзей і для развіцця жывёлагадоўлі. І таму ідуць намаганні, каб пабудаваць глыбінны (артэзіянскі) калодзеж.

Неабходна таксама павялічыць васьмікласную школу і адрамантаваць дарогу ў Заблудава. У гэтых вялікіх працах вёскі патрабуецца не мала грамадскай працы, і Уладзіслаў Задыковіч з'яўляецца яе арганізатарам. Адным словам, добра ён служыць сваім аднавяскоўцам і нездарма з'яўляецца кандыдатам на пасла ў Сейм.

*Тэкст і фота Я. Цялушэцкі*



*Вуліца Кастуся Каліноўскага ў Беластоку.* *Фота Цаф — Сянько*

## ШУКАЮЧЫ ДАДАТКОВЫХ МІЛЬЁНАЎ

Ад прадпрыемства да прадпрыемства па цэлай нашай краіне раздаецца воклік: «Шукаем дваццаці мільярдаў злотых!» З такім заклікам да рабочых звярталіся Цэнтральны Камітэт партыі і ўрад нашай краіны. Дадатковыя мільёны знайсці можна ў лепшай арганізацыі вытворчасці, у лепшай працы.

Узнікае аднак пытанне: ці дбайная праца павінна абавязваць толькі прамысловыя прадпрыемствы? А сяляне, тым больш сяляне сельскагаспадарчай Беласточчыны? Ці не варта, каб уважна разгледзеліся па сваіх панадворках, па сваіх палях. І на суседаву дзялянку таксама не зашкодзіць кінуць крытычным вокам. Не дзеля пустой цікавасці — вядома ж! А мо дзе нейкі кусок зямлі застаўся незасеяны? Чаму? Так, сур'ёзна трэба адказаць на гэтае пытанне і сабе, і суседу, бо справа вельмі важная. Нават у пастановах VI з'езду ПАРП звярнулі на гэта ўвагу. «*Важным стымулам, ад якога залежыць выкананне прадукцыйных задач у сельскай гаспадарцы,* — чытаем там, — *з'яўляецца далейшае паляпшэнне гаспадарання зямлёю шляхам болей інтэнсіўнага выкарыстання ўсіх зямельных угоддзяў і павышэння аховы іх перад займаннем на мэты, не звязаныя з сельскай гаспадаркай*».

Дык варта ўважна абыйсці свае пасевы. Ваяводскія ўлады ў Беластоку спадзяюцца, што ў гэтым годзе плошча пасеваў павялічыцца звыш чым на *2 працэнты.*

Што? Нібы мала? А ведаеце вы, што ў маштабе ваяводства гэтыя *два працэнты складуць каля 20-ці тысяч гектараў?* Тут ужо няма з чаго смяяцца. Бо хопіць уявіць сабе такі абшар хаця б пад жытам. Бачым перад вачыма зялёнае мора, з якога ў жніво пасыплецца залатое зерне. Пры нядрэнным ураджаі, такім, для прыкладу, які быў на Беласточчыне ў мінулым годзе, *з двух гэтых працэнтаў дадатковых пасеваў змаглі б мы атрымаць амаль чатырыста тысяч цэнтнераў збожжа.* Лічачы па 300 зл. за цэнтнер, *маем ужо 120 мільёнаў злотых.* Вось яны — дадатковыя мільёны! Дык разглядацца варта. Яшчэ не позна, яшчэ вясенняя сяўба перад намі, яшчэ можна паспець рабіць тое, на што не хапіла часу перад зімой.

Заадно не зашкодзіць паглядзець, што ў нашай сіласнай яме. Ці сапраўды сілас, які з'яўляецца для жывёліны смачнай каўбаскай? А мо там толькі нейкае старое смецце, снег і балота. Бо і так бывае. Вось у мінулым годзе, прыпомнілася мне, больш чым палова сялян у Мілейчыцкай грамадзе выкарыстоўвала свае сіласныя ямы якраз не дзеля прадукцыі сіласу. Падобна было ў Гайнаўскім павеце і ў другіх раёнах Беласточчыны. *А гэта ж таксама дадатковыя мільёны змарнаваных залатовак.*

Найлепш у гэтым пераканацца менавіта цяпер, у прадвесневы перыяд. Зараз жа найбольш інтэнсіўны час выкарыстання ў гаспадарцы сіласу. Селянін, які падумаў пра тое восенню, цяпер ходзіць як герой і ў кулак смяецца. Яго кароўкі адкормленыя як след, адплочваюць яму малаком, а за малако — вядома ж — чыстая валюта. І зноў — *сотня да сотні ды назбіраецца мільён.*

Малачарні Беласточчыны рыхтуюцца купіць ад сялян у гэтым годзе прыблізна 380 мільёнаў літраў малака. Гэта ж поўнае возера белай высакаякаснай сыравіны. Найбольш, бо амаль 40 мільёнаў літраў, дастаўляць яго гаспадары Беластоцкага павету. Яны і ў мінулым годзе заваявалі тут ваяводскае першынство. На другім месцы (амаль 37 мільёнаў літраў) знаходзіцца Бельскі павет, за ім — Сямяціцкі. А ўжо Гайнаўшчына — адстае далёка. Чаму? Ці на прынараўскіх і на другіх сенажацях не было ўмоў, каб разводзіць жывёлагадоўлю, каб сеяць высакаякасную траву, каб збіраць дадатковыя мільёны?

*Працяг на стар. 4*

## БГКТ хроніка

■ Прэзідыум беластоцкага (павятовага) аддзела 10 лютага на сваім пасяджэнні разгледзеў наступныя справы: 1) Падрыхтоўка агляду тэатральных калектываў і беларускай песні — 72. Першы агляд адбудзецца ў сакавіку, а другі — у красавіку. 2) План працы прэзідыума і аддзела на 1972 год. 3) Справа падрыхтоўкі справаздачна - выбарнай канферэнцыі аддзела.

У пасяджэнні прынялі ўдзел кіраўнік аддзела культуры павятовай рады нарадовай у Беластоку Аляксандр Трусяк, працаўнік культурна-асветнай парадні аддзела культуры Ізабэла Пулторак, прадстаўнік павятовага праўлення «Рух» Уладзіслаў Відэвіч і прадстаўнік акруговага праўлення добраахвотных пажарных каманд Рышард Гутоўскі. Вёў прэзідыум Янка Цялушэцкі.

■ 11 лютага адбыўся справаздачна - выбарны сход гарадскога гуртка БГКТ у Саколцы. Справаздачу аб працы гуртка зрабіў яго старшыня Уладзімір Аніська. Пасля дыскусіі аб далейшых напрамках працы гуртка прысутныя выбралі новае праўленне і дэлегатаў на канферэнцыю аддзела. У склад праўлення ўвайшлі: Іван Сідар — старшыня, Аляксандр Пракапюк — сакратар, Уладзімір Цілюлька — скарбнік, Уладзімір Васілюк і Уладзімір Місевіч — члены. Членам БГКТ уручаны былі новыя легітымацыі. Вёў пасяджэнне Аляксандр Рафаловіч.

■ 12 лютага ў Гданьску і 13 лютага ў Беластоку адбыліся справаздачна-выбарныя канферэнцыі аддзелаў (справаздачу надрукуем у наступных нумарах «Нівы»).

■ 13 лютага гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку арганізаваў цікавую вечарыну для моладзі.

■ Гуртох БГКТ у Трасцяніцы (Гайнаўскі павет) на апошнім сваім сходзе прыняў у рады БГКТ 10 новых членаў.

■ Гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку ў сваёй дзейнасці шмат увагі прысвячае моладзі сярэдніх школ. Для яе арганізоўвае аддзел шмат мерапрыемстваў. Таксама 14 лютага адбылася вечарына для школьнікаў IV класа малочнага тэхнікума ў Беластоку і навучэнцаў тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі ў Супраслі. (мх)

# Мінскі авіярамонтны завод

Сюды з аэрапортаў усяго Савецкага Саюза кіруюцца пасажырскія самалёты — лайнеры, каб перайсці дакладны тэхнічны агляд і рамонт. Умелыя і чулыя рукі мінскіх майстроў вяртаюць паветраным гігантам іх поўную тэхнічную спраўнасць. За высокую якасць праведзеных рамонтаў заводу прысвоены 25 залатых медаляў Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі і званне «Прадпрыемства высокай культуры вытворчасці». Цяпер на мінскі завод кіруюць на рамонт пасажырскія самалёты Польшча, Балгарыя, Чэхаславакія, ГДР, Куба і звыш 10 іншых краінаў свету.



*У гэтым цэху завода ідзе рамонт самалётаў «ТУ—124».*
*Фота М. Мінковіча*

# У. КАРПАВУ 60 г.

«Вялікая Айчынная вайна...

Мне давялося бачыць тады Беларусь, пралятаючы над ёю ў самалёце і пятляючы няходжанымі сцежкамі ад лініі фронту да Мінска. З вышыні я бачыў пункціры агнёў шматлікіх партызанскіх аэрадромаў, што чакалі тол, зброю і «Праўду» з Вялікай зямлі. Бачыў, як пад крылом, у сіняй цемені, бушаваў агонь, знішчаючы пасёлак, як кіпеў бой там, дзе нам трэба было прызямліцца. Мы праходзілі па спаленых вёсках, дзе немцы ўзарвалі нават калодзежы, заходзілі ў пакінутыя хутары, дзе ўсё спавіў нябыт. Я бачыў славутую рэйкавую вайну. Пабываў і ў паланёным Мінску. Ведаў шмат каго з падпольшчыкаў-мінчан, якія ўзрывалі на чыгуначным вузле саставы, на аэрадроме — самалёты, на ўцалелых заводах — станкі, знішчалі гітлераўцаў, іх халуёў, перапраўлялі ў лес медыкаменты, боепрыпасы, друкарскі шрыфт».

Гэтыя радкі ўзяты з артыкула «Позірк назад», напісанага ў 1965 годзе сучасным беларускім літаратурным крытыкам і празаікам Уладзімірам Карпавым, якому сёлета спаўняецца 60 год.

Уладзімір Карпаў нарадзіўся 26 лютага 1912 года ў горадзе Хвальнск каля Саратава. Засуха і ўспыхнуўшы разам з ёю жудасны голад на Паволжы ў 1921 годзе змусілі Карпавых выехаць на Беларусь. Пасля заканчэння сярэдняй школы У. Карпаў працуе спачатку на тартаку ў г. Рэчыца, а затым настаўнічае на Віцебшчыне і Гомельшчыне. Зусім перад вайной ён заканчвае экстэрнам Мінскі педагагічны інстытут.

Ва ўсе вогненныя ваенныя гады У. Карпаў дзейнічае ў партызанскіх атрадах на беларускай зямлі. Калі суцішылася ваенная навальніца, ён бярэцца за пяро. Спачатку працуе ў рэдакцыі газеты «Советская Белоруссия», а потым у газеце «Літаратура і мастацтва». У 1944 г. паяўляюцца першыя яго артыкулы, прысвечаныя беларускай літаратуры. У. Карпаў займаецца даследаваннем драматычнай творчасці Я. Купалы, прозы і сцэнічных твораў Я. Коласа, белетрыстыкі К. Чорнага, драматургіі К. Крапівы і творчасці М. Лынькова.

Багаты жыццёвы матэрыял, вынесены з партызанскіх паходаў і прадуманы ўжо ў мірны час, не дазваляе У. Карпаву абмежавацца толькі літаратурнай публіцыстыкай. У 1950 годзе выходзіць з друку першая яго аповесць «Без нейтральнай паласы». Як і трэба было чакаць, яна прысвечана партызанскаму руху на Беларусі. Але вось патухлі ўжо зарніцы выбухаў партызанскіх мінаў на рэйках чыгунак, гады развеялі дым і попел з руінаў знішчанай вайной Беларусі. Былыя партызаны і салдаты Савецкай Арміі прыступілі да аднаўлення жыцця на разбуранай зямлі. Іменна ім — былым героям ваенных год, а цяпер — будаўнікам новага пасляваеннага Мінска прысвячае У. Карпаў свой раман «За годам год» (1957). Праца, жыццё і думы беларускіх рабочых знайшлі адлюстраванне ў наступным рамане пісьменніка «Вясення ліўні» (1961). Але вобразы з ваенных год прымушаюць пісьменніка зноў вярнуцца да ваеннай тэматыкі. У 1962 г. выходзіць з друку яго раман «Нямігі крывавыя берагі», у якім аўтар глянуў на партызанскі рух з пункту гледжання нашых дзён.

Побач з працай над празаічнымі палотнамі У. Карпаў не спыняе сваёй працы літаратурнага крытыка. З-пад яго пяра выходзяць артыкулы, прысвечаныя разгляду і ацэнцы творчасці М. Паслядовіча, І. Шамякіна, Я. Брыля, Р. Сабаленкі.

Пазней, працуючы ў «Полымі», У. Карпаў вядзе крапатлівую выхаваўчую работу сярод беларускай літаратурнай моладзі.

Белетрыстычныя творы У. Карпава карыстаюцца папулярнасцю не толькі ў Беларусі, яны перакладзены на рускую і ўкраінскую мовы. Яго літаратурная публіцыстыка робіць адметны ўплыў на фармаванне сучаснай беларускай прозы і драматургіі. Да яго меркаванняў, спасцярог і крытычных заўваг пільна прыслухоўваюцца не толькі маладыя пісьменнікі, але і вядомыя беларускія белетрысты.

*Мікалай Гайдук*

# Ці ведаеце, што...

...зараз у Польшчы на вёсцы працуе 4,5 тысячы лекараў, 1 800 зубных лекараў, больш 4 тысяч медсясцёр і каля 1,5 тысячы акушэрак.

...больш 4,4 тысячы паасобных дрэў у Польшчы прызнана за помнікі прыроды.

...Польшча знаходзіцца на 20 месцы ў свеце адносна колькасці жыхароў.

...у Беластоцкім ваяводстве дзейнічае 101 ашчадна-пазыкавая спулдзельня (СОП) і 88 пунктаў СОП. У 1970 годзе СОП-ы налічвалі 182 177 членаў, у тым ліку 155 639 членаў-сялян. Члены СОП мелі на сваіх ашчадных кніжках 783 987 тысяч злотых, за якія працэнты склалі суму 26 461 тысяч злотых.

...адной з найбольш тоўстых кніжак на свеце з'яўляецца «Гісторыя грамадзянскай вайны ў Амерыцы». Налічвае яна 120.000 старонак друку, яе таўшчыня каля 9 метраў. У бібліятэку ўносіла яе 16 чалавек. Найменшай дагэтуль кніжкай свету з'яўляецца 147-старанічовы французска-англійскі слоўнік, выдадзены ў Глазга. Налічвае ён 400.000 слоў і важыць усяго 3 і 2/3 грама. (ця)

# Беларускія кнігі

Змяшчаем спісак беларускіх кніг, якія можна набыць у Беластоку ў кнігарні на вуліцы Кілінскага 10.

Барадулін Рыгор, «Адам і Ева», Мінск 1968, стар. 256, цана 9 зл. 10 гр.

Рыгор Барадулін — адзін з найбольш таленавітых сучасных беларускіх паэтаў. Ён прыйшоў у нашу літаратуру ў 50-дзесятыя гады, унёс у беларускую паэзію свежыя арыгінальныя вобразы і форму твораў. Яго творчасць карыстаецца папулярнасцю не толькі ў БССР, але ва ўсім Савецкім Саюзе. У кнігу ўключаны лепшыя вершы і паэмы з ранейшых зборнікаў, а таксама новыя творы.

Рэкамендуем усім любіцелям беларускай паэзіі.

# Куток гаспадыні
## Што рабіць, каб добра зварыць

# ГАРАЧЫЯ НАПІТКІ

### КРУПНІК

Тыповы польскі напітак, які папівала калісьці шляхта на куліках. Мёд развесці вадой (адна шклянка вады на паўтары шклянкі мёду). Дадаць карэнні: карыцу (цынамон), гваздзіку, імбір, мускатны арэх, ваніль, лімонную скурку. Паставіць на агні, каб закіпела. Тады адставіць мінут на 15, каб крыху прастыла, пасля чаго працадзіць праз густое сіта. Дадаць столькі спірту, колькі было вады з мёдам. Падагрэць (не кіпяціць!) і падаваць у гліняных чарках.

### ПОНЧ

Хаця паходзіць ён з Англіі, мае свае традыцыі ў Польшчы. Аб ім пісаў ужо Міцкевіч. Падаюць яго як халодны так і гарачы. Найпрасцейшы спосаб падрыхтоўкі понча. Гарачай вадой заліць паўшклянкі чаю. Напар спалучыць са шклянкай белага віна і паловай шклянкі чырвонага віна. Дадаць лімонную скурку, сцертую на дробнай тарцы, сок з гэтага ж лімона і пасаладзіць. Вымяшаць, падагрэць пад крышкай (не кіпяціць!) і падаваць у шклянках.

### ГАРАЧАЕ ВІНО

Можна падаваць гарачае віно як чырвонае, так і белае ці вытраўнае.

На бутэльку чырвонага віна трэба ўзяць 6—7 лыжачак цукру, кавалачак карыцы (цынамону) і некалькі гваздзікаў. Падагрэць, але не кіпяціць, дадаць крыху лімоннага соку і разліць у шклянкі.

Белае сухое віно падагрэць з кавалкам ванілі. У той час расцерці з цукрам жаўткі (3 на бутэльку віна). Заліць жаўткі гарачым віном. Разліць у шклянкі, палажыць зверху па паўскрылёчка лімона.

### АНГЛІЙСКАЯ БАВАРКА

Баваркай называюць звычайную гарбату з малаком. Але можна зрабіць яе і на святочны лад. У каструльку ўбіць жаўток, усыпаць дзве лыжкі цукровай пудры і, мяшаючы, падагрэць. Дадаць шклянку моцнай гарбаты, уліць кілішак рому і мяшаць далей. Калі запеніцца, уліць у маленькія шкляначкі.

### ГРОГ

Гэта вядомы напітак маракоў, падаюць яго замерзшым матросам у час вахты. Матросы прывыклі піць грог таксама на сушы, ад іх навучыліся піць гэты напітак таксама і іншыя. Напітак звычайна складаецца з рому, разведзенага гарачай вадой або гарбатай з цукрам і лімонам.

Класічны найпрасцейшы грог: у шклянку ўлажыць кавалак або ўсыпаць паўтары лыжачкі цукру, палажыць скрылёчак лімона і ўліць кілішак рому, даліць гарачай вады або моцнай гарбаты.

Можна зрабіць грог мядовы: у шклянку ўліць кілішак віняку, дадаць лыжачку мёду, заліць гарачай вадой, палажыць скрылёчак лімона.

*Гаспадыня*




### ТАВАРЫШ МІХАЛ

Час, аднак, вярнуцца ў Санку.

Трэба было вырашыць, каму чым заняцца. Валерыя ўмела, як ніхто, знікаць і своечасова з'яўляцца. На гэты раз прыйшла не сама.

Сярэдніх гадоў, крыху флегматычны мужчына з ільвінай грывай валасоў моцна пацiснуў маю руку:

— Міхал Зайонц. Сакратар падпольнага абкома. — Пацікавіўся: — Пасты выстаўлены?

У нашых умовах гэта было не пустое і зусім не лішняе пытанне. Мы, аднак, усё прадугледзелі. На агародзе капалі бульбу стары Урубэль і яго дочкі Рузя і Стэфа. У лесе з раніцы «збіралі грыбы» целаахоўнікі Ольгі Метэк і Казік. Было дамоўлена: калі што заўважаць — закукуюць зязюляй. Я ў агульных рысах пазнаёміў нашых польскіх сяброў з просьбай камандавання: максімальна расшырыць разведработу, сістэматычна забяспечваць Цэнтр дэталёвай інфармацыяй аб воінскіх перавозках усімі відамі транспарту, аб дыслакацыі на гэтай тэрыторыі нямецкіх войск. Я амаль даслоўна перадаў словы Паўлава: «Савецкае камандаванне поўнае рашучасці любой цаной захаваць Кракаў — старажытную сталіцу Польшчы. І вельмі спадзяецца на дапамогу польскіх сяброў. Мы павінны ахапіць разведсеткай раён Кракава. Паводле папярэдніх даных, тут узводзяцца магутныя абарончыя забудаванні».

Перайшлі да практычных задач. Першапачатковы план наш лопаўся па швах. Не было чаго і думаць аб маёй легалізацыі ў Кракаве. Мае фатаграфіі, прыкметы і сляды пальцаў, трэба меркаваць, ужо разасланы ў мясцовыя аддзяленні гестапа. Непакоіла і радыёкватэра ва Урубляў. Рацыю могуць засячы, а можа ўжо і засеклі: занадта доўга сядзім на адным месцы. Я падзяліўся сваімі апасеннямі, планамі перабазіроўкі.

— Рашэнне своечасовае і правільнае, — падтрымаў нас Зайонц. — Мы дапаможам вам, капітан Міхайлаў, перабазіравацца разам з радысткай у адзін з нашых партызанскіх атрадаў. Адтуль і будзеце кіраваць групай. Аляксея ўладкуем у Кракаве. Ёсць у мяне на прыкмеце адзін вельмі надзейны таварыш — Юзэф Прысак, Мянушка — Музыкант. Ён у нас скрыпач. З імі і працаваць Аляксею.

Усё станавілася на свае месцы. Радысткай застанецца Ольга. Да яе почырку ў Цэнтры прывыклі. У Гразы ўсе шанцы легалізавацца ў Кракаве, Грушы наўрад ці ўдасца знайсці сваю рацыю, а дакументы ў яе надзейныя. Зайонц згодна кіўнуў галавой:

— Грушы, бадай, лепш заняцца зборам разведданых. У Кракаве цяпер многа жанчын з Усходу. Згубіцца сярод іх няцяжка. Мы падбяром ёй штосьці падыходзячае.

Засталося вырашыць апошняе: як звязацца з партызанамі? На наступную раніцу Граза ў суправаджэнні Метка накіраваўся ў Бяскіды — у польскі партызанскі атрад, які павінен быў стаць і нашай базай. Неўзабаве сувязны з Кракава прынёс першае данясенне Грушы. Міхал стрымаў сваё слова. Анка ўладкавалася пакаёўкай на вуліцы Рынкавай, 10 у мадам Гоф — жонкі віцэ-пракурора Кракава. Гатавала страву, мыла, прыбірала пакоі. Вельмі старалася. Да Гофа часта прыходзілі відныя гітлераўскія чыноўнікі, афіцэры вермахта. Многім з іх падабалася акуратная, прыгожая пакаёўка з ветлівай усмешкай, у накрухмаленым фартуху. Пры ёй не саромеліся, гаварылі аб усім. Госці любілі добра і смачна паесці. І Груша ледзь не кожную раніцу адпраўлялася з вялікім кошыкам на рынак. Ішла не спяшаючыся, важна, як і належыць пакаёўцы дома такой уплывовай асобы. Пільныя вочы разведчыцы прывычна адзначалі: мотакалона колькасцю да палка.

...К канцу тыдня вярнуўся з Бяскідаў Аляксей. Дзелавую частку рапарту звёў да аднаго слова: чакаюць.

Потым з уласцівым яму тэмпераментам пачаў апісваць Бяскіды. Калі дзе ёсць рай на зямлі — дык гэта там.

Бяскіды ўсяго за трыццаць-сорак кіламетраў ад Кракава. Камандзір атрада паручнік Тадэвуш Грыгорчык — Тадэк — пакідае добрае ўражанне. Базу атрада ён размясціў у самым цяжкапраходным раёне Падгалля.

### СКОМСКІ

З Юзэфам Скомскім мяне пазнаёміла Ольга. Яе рэкамендацыя была кароткай і вычарпальнай:

